# Газета для вас

№ 4 (267)
26 студзеня — 1 лютага 2001 г.

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

Падпісныя індэксы: 63834 (індывідуальная) 64145 (ведамасная)

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




## И снова "игра" в демократию
### *на предстоящих выборах*

***В многолюдных местах Баранович вновь появились информационные плакаты напоминающие избирателям, что 18 марта состоятся повторные выборы в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь. Учитывая опыт осенней избирательной кампании есть все основания, что "вертикальщики" больше не допустят "срыва" выборов и депутатские мандаты обязательно "получат" намеченные властью кандидаты.***

Уверенность автора в этих предположениях базируется прежде всего на открытой и беспрецедентной фальсификации итогов голосования, на клевете и лжи в отношении кандидатов-соперников со стороны властьдержащих на прошлых выборах.

Так, имея ряд грубейших нарушений Избирательного кодекса, которые были письменно подтверждены даже прокуратурой, представитель правящего режима Б. Биккинин беспрепятственно занял мягкое кресло в Овальном зале Дома правительства.

А второй радетель за народное счастье, первый секретарь обкома КПБ и зампред Брестского облисполкома В. Захарченко стал депутатом-"палаточником" благодаря использованию "грязной технологии". Надеясь на вседозволенность и безнаказанность, его доверенное лицо, облисполкомовский чиновник В. Клименко прилюдно, а затем через местную печать оболгал соперничающего кандидата в депутаты от Партии коммунистов белорусской (ПКБ) А. Новика, приписав ему четыре судимости и назвав рецидивистом. Правда, за эту беспардонную ложь с Владимира Николаевича Клименко судом Ленинского района Бреста взыскано в пользу А. Новика 200 тысяч рублей и 25500 — в счёт возмещения судебных расходов. Но, увы! Мавр своё дело сделал. Законотворцем стал нужный режиму клерк.

Повторные выборы по двум барановичским избирательным округам сегодня открыто указывают, даже далёкому от политики обывателю, кто нужен власти. Так, еще до отведенного законом времени по агитмассовой работе, подвластная "вертикали" печать стала пропагандировать представителя президентской администрации и аракула обнищалой медицины.

Выборный "концерт" состоится при любой погоде. Сценарий отработан до мелочей. Сделав упор на досрочное голосование можно не только провести "своего", но и повысить доселе низкую активность горожан. А для этого обязательно применят "демократическую" проработку руководителей предприятий и учреждений, а те в свою очередь — подчиненных.

**(Окончание на 2-й стр.).**

## ТРЭЦЯЯ ЧВЭРЦЬ ДАЎНО ІДЗЕ,
### *А БЕНЗІНУ ДЛЯ ПАДВОЗУ ВУЧНЯЎ НЯМА*

**ПРУЖАНЫ.** ***Вучні Навасёлкаўскай сярэдняй школы, якія жывуць у вёсцы Скорцы, іх бацькі, адміністрацыя і настаўнікі школы пакуль беспаспяхова вырашаюць праблему — якім чынам дастаўляць вучняў (іх — 13 чалавек) у школу і забіраць назад.***

Сітуацыя, сапраўды, складаная. Школьны аўтобус, які дастаўляў дзяцей на заняткі і адвозіў назад (а адлегласць паміж Скорцамі і Навасёлкамі складае 11 кіламетраў) з 8 студзеня стаіць па прычыне адсутнасці паліва. Як паведаміла нам адзін з членаў педкалектыву школы, два нядаўніх дні дзеці ўвогуле ў школу і са школы хадзілі на лыжах. Аб гэтай сітуацыі ведаюць і ў райвыканкаме. А навучальны год, тым часам, працягваецца...

*Любоў КРУК.*

## Прычыны самагубства высвятляюцца

**ІВАЦЭВІЧЫ.** ***За першы месяц новага года ў раёне адбылося тры выпадкі гібелі людзей праз вісельню. Прычыны высвятляюць праваахоўныя органы.***

Але нашы жыхары задаюцца пытаннем: "Ці ад добрага жыцця людзі дабраахвотна (а можа і не па сваёй ахвоце?) развітваюцца з белым светам?" І адбываецца гэта часам у незвычайных умовах, як, напрыклад, у калгасе "Расія" (Целяханы). Мясцовы калгасны вартаўнік, якому было толькі 35 гадоў, павесіўся ноччу на збожжаўборачным камбайне.

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

## Мэта — удзел у выбарах

**БАРАНАВІЧЫ.** ***15 студзеня 2001 года шэрагам грамадскіх арганізацый, рэгіянальных арганізацый палітычных партый, прафсаюзаў, сродкамі масавай інфармацыі ўтворана Рэгіянальная Асамблея Дэмакратычных Арганізацый (Баранавіцкая РАДА). Яе асноўная мэта — падрыхтоўка і ўдзел дэмакратычных сілаў у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.***

Пагадненне "Баранавіцкая РАДА" адкрыта да падпісання.

Запрашаем грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі, прафсаюзы, сродкі масавай інфармацыі далучыцца да пагаднення і прыняць актыўны ўдзел у рабоце Асамблеі.

Наступнае пасяджанне Асамблеі адбудзецца ў перыяд 29.01—04.02.2001 г.

З усімі пытаннямі звяртацца да каардынатара Асамблеі Уладзіміра Зуева па тэл. 417945 (з 16.00 да 18.00) і 460632 (19.00 да 22.00).

## Якога роду п'яніца?

**ДРАГІЧЫН.** Мужчыны сцвярджаюць — жаночага, а жанчыны, наадварот, — мужчынскага. Хто з іх мае рацыю? Каб адказаць на гэтае пытанне, звернемся да лічбаў. У раёне на ўліку ў нарколага стаіць 567 алкаголікаў, у тым ліку 89 жанчын. 160 чалавек з агульнай колькасці прыпадае на райцэнтр. Лічбы гавораць самі за сябе. Трывожыць тое, што кожны шосты алкаголік у раёне — жанчына. Гаворка ідзе толькі пра тых п'янчугаў, якія на ўліку. А колькі іх яшчэ не ўлічана і не лечыцца ў нарколага, а для свайго "выздараўлення" штодня старанна шукаюць пахмелля. Нядзарма кажуць, што пахмелле — гэта п'янка на другі дзень.

*Алесь САШЫН.*

## Маланка, гром і вясёлка

**ДРАГІЧЫН.** Многае пабачыў у сваім жыцці Якаў Пятровіч Кулік, жыхар вёскі Галоўчыцы. За яго плячыма ўжо 90 гадоў. Адшугала некалькі войнаў, была калектывізацыя, будаўніцтва развітога сацыялізму... Усё перажыў ветэран. Шмат чаго пабачыў — цікавага і незвычайнага. Але тое, што здарылася ў снежні мінулага года, узрушыла нават і яго, старога чалавека. На вёску наляцеў моцны ўраган, чорная хмара закрыла ўсё неба, бліснула маланка, і над вёскай пракаціўся моцны сілы гром. Ні разу не чуў і не бачыў стары Кулік, каб узімку гуркатаў гром такой сілы. Але самае дзіўнае было потым. Прайшла навальніца, рассеяліся хмары, выбліснула сонца, і над самай царквой заззяла вясёлка. Такая зусім не зімовая прыродная з'ява ўразіла не толькі Якава Пятровіча на заканчэнні дваццатага веку, але і ўсіх яго аднавяскоўцаў.

*Наталля ГРЫГАРЧУК.*

## ЯКАЯ ЗАРПЛАТА ПАТРЭБНА СЁННЯ,
### *КАБ ЖЫЦЬ ДАСТОЙНА?*

***Гэта пытанне мы задавалі жыхарам Пружанаў на вуліцах іхняга горада. І вось што мы пачулі.***



**Тамара Леанідаўна.** Скажу адно: зарплаты сёння зусім нізкія. На іх большасці народа нельга пражыць. Хлеб, малако, бульба, кефір — на большае не хапае. У мяне, напрыклад, трое дзяцей. А гэта ўжо вялікая сям'я. Ёсць студэнты. Разумееце, колькі патрэбна ўсяго, акрамя прадуктаў харчавання. У нас накуль што атрымліваецца сумарны даход каля 90 тысяч рублёў. Гэтага мала. Таму займаемся сельскай гаспадаркай, саджаем бульбу, вырошчваем парсюкоў і з цяжкасцю зводзім канцы з канцамі. Купляем толькі самае неабходнае. Каб жыць больш-менш дастойна, трэба сёння атрымліваць у месяц хаця б 150 тысяч рублёў. Пры гэтым неабходна адна ўмова — каб не раслі цэны.



**Мікалай Фёдаравіч з унукам.** Я — былы ваенны, зараз на пенсіі. Атрымліваю 60 тысяч рублёў. Жонка працуе ў магазіне. Заробак яе складае ў сярэднім 20 тысяч рублёў. Каб штосьці мець, трымаем уласную гаспадарку. Хочацца і дзецям, і ўнукам дапамагчы. Калі б жонка атрымлівала хаця б 70 тысяч рублёў у месяц, то пражыць было б лягчэй. У нас растуць толькі цэны, а зарплата — як Бог дасць.



**Міша.** Я зараз часова не працую. А калі працаваў, то атрымліваў 25 тысяч рублёў у месяц. Грошы аддаваў бацькам, так сказаць, у сямейны бюджэт. Зараз вучуся ў вячэрняй школе. Думаю і далей працягваць вучобу. На ўсё патрэбны грошы. Пакуль што бацькі выручаюць. А далей і самому трэба будзе зарабляць, каб вучыцца, набыць нейкую спецыяльнасць. Калі б знайсці такую работу, дзе можна зарабляць хаця б 70 тысяч рублёў, то ўжо было б трохі лягчэй. Але зноў жа цэны з'ядуць і гэтую суму.



**Ірына.** Я працую лабаранткай у сельскагаспадарчым каледжы. Мая зарплата — 30 тысяч рублёў у месяц. На першы погляд нібыта няблага, а як станеш размяркоўваць расходы, то і не заўсёды хапае. Праўда, раней было больш цяжка, будавалі кааператыўную кватэру, патрэбна было яе абставіць. Без дапамогі бацькоў, вядома, мы гэтага не зрабілі б. Гэтых 70 тысячаў рублёў, што я атрымліваю, плюс столькі б мужавых нам бы хапіла б на самае неабходнае для пражыцця. Што ж тычыцца абяцаных прэзідэнтам 100 долараў у месяц, то, думаю, нам яшчэ доўга іх чакаць.

*У народ хадзілі Святаслаў КАЖАДУБ і Аляксандр ГОРБАЧ (фота).*

 



ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Праезд будзе даражэйшы

*Пастановай Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі з 18 студзеня на 7,7—8,5 працэнта павялічаны тарыфы на праезд у аўтобусах прыгарадных і міжгародніх зносін.*

Кошт праезду на звычайных прыгарадных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу ўзрос з 8,2 да 8,9 рубля за 1 кіламетр, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — з 8,8 да 9,5 рубля; на хуткасных прыгарадных маршрутах — адпаведна з 10,7 да 11,6 і з 11,4 да 12,3 рубля; на дадатковых прыгарадных рэйсах — адпаведна з 11,1 да 12 і з 11,9 да 12,9 рубля.

Кошт праезду на звычайных міжгародніх маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу павялічаны з 12 да 13 рублёў, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — з 13,7 да 14,8 рубля; на хуткасных міжгародніх маршрутах — адпаведна з 15,6 да 16,8 і з 17,8 да 19,2 рубля. Тарыфы на дадатковыя міжгароднія рэйсы ўстаноўлены ў памеры 17,5 (у аўтобусах агульнага тыпу) і 20 рублёў (ў аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі) за 1 кіламетр.

Апрача таго, на 12,5 працэнта (з 40 да 45 рублёў) павялічаны збор за папярэдні продаж і (або) браніраванне кожнага білета.

## Рост потребительских цен в Беларуси составил 2,3%

*По данным Министерства статистики и анализа Беларуси, за первые две недели января рост потребительских цен в стране составил 2,3 процента (за первую неделю - 1,4, за вторую - 0,9).*

Для сравнения: за первые две недели декабря 2000 года цены выросли на 2,9 процента, за первые две недели января 2000 года - на 5,6 процента.

## Делегация оппозиции

*22 января делегация белорусской оппозиции отправилась в Страсбург для участия в заседании Политического комитета Парламентской ассамблеи Совета Европы (ПАСЕ), которое пройдет в рамках очередной сессии ПАСЕ.*

В составе делегации 4 человека - лидер Объединенной гражданской партии (ОГП) Анатолий Лебедько, председатель Белорусской партии женщин "Надзея" Валентина Полевикова, экс-премьер Беларуси Михаил Чигирь и заместитель председателя ОГП Ярослав Романчук. Последний вылетел во Францию по приглашению фракции ПАСЕ "Европейские демократы".

Как сообщил БелаПАН накануне отъезда Анатолий Лебедько, "в повестке дня не будет стоять вопрос о размораживании статуса специально приглашенного для Беларуси, и уж тем более не может рассматриваться вопрос о наделении неким статусом кого бы то ни было от оппозиции или от официальных структур". "Материалы слушаний будут использованы в дальнейшем при принятии каких-либо решений по Беларуси".

Как уже сообщал БелаПАН, сутки назад в Страсбург для участия в слушаниях отправилась делегация Палаты представителей Национального собрания Беларуси.

*(БелаПАН).*

## Асабістыя ўражанні

### ад сустрэчы з "чэснымі" журналістамі

*10 студзеня ў актавай зале другога цэха дзяржпрадпрыемства "Бярозабудматэрыялы" ў лепшых савецкіх традыцыях адбылася сустрэча з прадстаўнікамі рэдакцый газет "Советская Белоруссия" і "Заря". Пры тым ладзілася яна ў працоўны час — а 14-й гадзіне.*

Выступіла некалькі пастаянных чытачоў "Советской Белоруссии", якія хвалілі прэзідэнцкую газету, выказалі свае прапановы і нейкія крытычныя заўвагі.

На прапанову зрабіць асобную падпіску на суботні непалітычны нумар "Советской Белоруссии" (які большасць вызначыла як найбольш цікавы) намеснік галоўнага рэдактара шчыра прызнаўся, што ў такім разе значна скароціцца наклад усей прэзідэнцкай газеты.

Намеснік генеральнага дырэктара "Бярозабудматэрыялы" сп. Клімчук абвінаваціў разам увесь недзяржаўны друк у ачарніцельстве нашай рэчаіснасці — і тут жа сам выступіў з крытычнымі заўвагамі і грунтоўнымі прапановамі аб скарачэнні і рэфармаванні міністэрства ўнутраных спраў.

Цікавым аказалася, што пры агульным змяншэнні падпісчыкаў дзяржаўных выданняў, колькасць тых, хто выпісаў "Народную волю", "Газету для вас" узрасла. (тыраж "Газеты для вас", да прыкладу, узрос на Бярозаўшчыне на 25 працэнтаў). І гэта пры тых няроўных умовах для дзяржаўнага і недзяржаўнага друку ў нашай краіне (калі, да прыкладу, дастаўка поштай незалежных выданняў каштуе ў некалькі разоў даражэй, чым паслугі пошты для дзяржаўнай прэсы).

Безумоўна, кожны сам вольны выбіраць, што яму чытаць, выпісваць, слухаць або глядзець. Але ж, на жаль, пачуць па Беларускім тэлебачанні мы можам толькі думку прэзідэнцкай каманды. Так і па дзяржаўным радыё.

*Сяржук РУСЕЦКІ,*
*інжынер — канструктар завода мінералавапных вырабаў.*
*г. Бяроза.*

## Не старэюць галасы "Ветэрана"

**ДРАГІЧЫН.** *Харавы калектыў "Ветэран" створаны пры Драгічынскім Доме культуры. Яму хутка 15 гадоў. Увесь гэты час хор папаўняўся новымі ўдзельнікамі — ветэранамі вайны і працы, удасканальваў сваё майстэрства. І недзарма яму прысвоена ганаровае званне "народны".*

У рэпертуары народнага хору беларускія і украінскія народныя песні, а таксама жартоўныя, лірычныя і духоўныя. З асаблівым задавальненнем, душэўнасцю выконваюць самадзейныя спевакі песні на ваенна-патрыятычную тэму.

Ніводнае свята ў райцэнтры і раёне не абыходзіцца без самадзейных артыстаў "Ветэрана". Неаднаразова яны выступалі ў абласным цэнтры на фестывалях і конкурсах, дзе займалі прызавыя месцы.

Гаворачы пра папулярнасць гэтага народнага хору, трэба зазначыць, што заснавальнікамі яго з'яўляліся вялікія энтузіясты харавога спявання А. А. Брухан, І. І. Гайдаленка і І. С. Весялова. Гэта іх намаганнямі створаны народны калектыў.

*Сяргей СЦЕПАНОВІЧ.*




*"Калі б падмарозіла, то можна было б касіць дзікую траву, якая засталася на коране ў кіламетрах васьмі ад фермы. Не горш за салому будзе."*

*("Івацэвіцкі веснік", № 4 за 17 студзеня 2001 года. З артыкула "А ранняй вясны можа і не быць").*

## И снова "игра" в демократию

### на предстоящих выборах

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

Мне же кажется, чтобы предстоящие мартовские повторные выборы прошли честно и справедливо, чтобы избиратели не под гнетом страха, а по велению души и сердца пошли голосовать, необходимо изменить состав избирательных комиссий. Сейчас они практически сформированы из представителей власти. Свою несостоятельность показал и президентский Центризбирком, где нет представителей политических партий и общественных объединений. Далее, придать широкую гласность работе парламента, как это делается в России. И, наконец, спросить у законотворцев: почему творения их ума не находят живого отклика у населения республики; как исполняются принятые ими законы; кто несет ответственность за практику их применения и результативность их выполнения?

Впереди президентские выборы. Где гарантия, что их итоги не будут сфальсифицированы, хотя сейчас А. Лукашенко и его окружение стали так активно внедрять в сознание электората, что президентские выборы в Беларуси "пройдут демократично, честно и открыто"?

Резоном здесь может быть крылатая фраза, вылетевшая из уст Александра Григорьевича на первых шагах президентства: "Я на выборы не пойду, всё равно обманут".

*Григорий ДРУЖИНИН.*
*г. Барановичи.*

# Беларусь вядуць у "зону немасці"

## Адкрыты ліст грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" да беларускай і міжнароднай грамадскасці

Стаў вядомым дагэтуль пільна хаваны беларускімі ўладамі факт падрыхтоўкі законапраекта "Аб інфармацыйнай бяспецы". Згаданы дакумент быў апублікаваны ў малатыражным выданні Санкт-Пецярбургскага універсітэта пад назвай "Концептуальные проблемы информационной безопасности в Союзе России и Беларуси".

На нашу думку, законапраект з'яўляецца тыповым узорам савецкай нарматворчасці. Ён вытрыманы ў духу непрымірымага змагання з ідэалагічнымі апанентамі цяперашняй улады і вынікае з уяўлення аб падзеле грамадства на два непрымірымыя ідэалагічныя лагеры. Гэты прынцып пераносіцца на дачыненні з ўсім астатнім светам.

Шэраг нормаў законапраекта наўпрост замахваюцца на асноўныя правы і свабоды грамадства, а таксама перакрэсліваюць узятыя Рэспублікай Беларусь абавязкі што датычаць прыярэтэтнасці міжнародных дакументаў у галіне інфармацыйнай дзейнасці. Акрамя ўсяго, дакумент мае элементы "надзвычайшчыны" (надзвычайнага становішча) і накіраваны на ўсталяванне татальнага кантролю над розумам мільёнаў людзей.

У такіх умовах апрыёры выключаецца плюралізм думак і фактычна знішчаецца свабодная прэса як інстытут грамадзянскай супольнасці. У выніку Беларусь можа ператварыцца ў "зону немасці" і застанецца адзінай такой дзяржавай на карце Еўропы.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" лічыць, што ў прадстаўленым выглядзе законапраект "Аб інфармацыйнай бяспецы" з'яўляецца антыканстытуцыйным і антыдэмакратычным па сваёй натуры, змесце і наступствах.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" настойвае на выключэнні згаданага праекта з плана падрыхтоўкі законапраектаў на 2001 год і звяртаецца да беларускага грамадства і міжнароднай супольнасці з просьбай падтрымаць гэтае патрабаванне ў кантэксце міжнароднай палітыкі, накіраванай на ўмацаванне ўзаемаразумення, супрацоўніцтва і бяспекі ў Еўропе.

*Тэкст Адкрытага ліста зацверджаны на Праўленні ГА "Беларуская Асацыяцыя Журналістаў".*
*23 студзеня 2001 г.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 24.01.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгичин |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500 | 2500—3800 | 2500—3600 | 2500—3400 | 2600—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2400 | 2500 | 2000—2400 | 2200—2600 |
| Алей (1 л) | 750—1000 | 700—1100 | 750—950 | 800—1100 | 830—1000 |
| Яйкі | 1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 600 | 550 | — |
| Шпроты | 400—450 | 400—420 | 450 | 400 | 450—500 |
| Масла сметанк. | 1800—2000 | 1900 | 2000 | 2000 | 1700—1750 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 100 | — |
| Цыбуля | 250 | 180—220 | 250 | 200 | 150—200 |
| Морква | 150—200 | 100—150 | 180 | 180 | — |
| Капуста | 100 | 100—120 | 80—200 | 100 | — |
| Грушы | — | 600—1000 | — | 400 | — |
| Буракі | 60—80 | 60—80 | 60—80 | 80 | — |
| Мандарыны | 1900—2000 | 1500—1800 | 1800 | 1800 | 1700—1750 |
| Грэцкія арэхі | 1300 | 1300 | 1500 | 1200 | 1400 |
| Яблыкі | 300—800 | 300—800 | 300—500 | 420 | 200—250 |
| Маянэз | 250—450 | 240—420 | 240—420 | 240—450 | 300—400 |
| Вінаград | 4000 | 3500 | 3800 | — | — |
| Хурма | 1600 | 1000—1300 | 1500 | 1500 | — |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—800 | 800 |
| Лімоны | 1400—1500 | 1300—1500 | 1500 | 1300 | 1500—1550 |
| Апельсіны | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1100—1200 |
| Бананы | 1100—1200 | 1100 | 1300 | 1250 | 900—1220 |
| Гранаты | 1900 | 1900 | 1800 | 1600—1800 | — |
| Грэчка | 580—660 | 650 | 550—600 | 700 | 580—610 |
| Макар. вырабы | 520—560 | 500—560 | 600 | 500—600 | 500—600 |
| Рыс | 480—520 | 500—520 | 550 | 550 | 500—550 |
| Манныя крупы | 460—500 | 460 | 500 | 500 | — |
| Проса | 350 | 330 | 360 | 360 | 350—400 |
| Цукар | 560 | 550 | 550 | 550 | 570—580 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 3.600 | 4.000 | 5.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1220 | 1250 | 1220 | 1250 | 1220 | 1250 | 1220 | 1250 | 1220 | 1250 |
| 1 дойчмарка | 570 | 590 | 560 | 580 | 560 | 590 | — | — | 560 | 580 |
| 1 рубель Расіі | 40 | 43 | 40 | 44 | 40 | 44 | 41 | 44 | 40 | 45 |

 

# ВЫЯВІЦЬ І ЛЮДЗЯМ ПАКАЗАЦЬ

## У насценцы ці па тэлебачанню

*У Драгічыне і раёне добра ведаюць галоўнага ўрача раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Міхаіла Мікалаевіча Стахейку. Нават за вочы празвалі яго "Штрафейкам". Гэта, маўляў, за тое, што штрафуе ўсіх налева і направа. Нікога не шкадуе. За што ж так карае парушальнікаў галоўны санітарны ўрач раёна? Ці толькі адны пакаранні ў арсенале гэтага кіраўніка?*

Сапраўды, Міхаіл Мікалаевіч Стахейка даволі строгі, прынцыповы, але справядлівы кіраўнік. Ужо не адзін начальнік раённых службаў расплачваўся за парушэнні са сваёй кішэні. Аднак, як сцвярджае сам галоўны санітар, штрафы складаюць зусім малую частку ў парaўнанні з тымі прафілактычнымі сродкамі ўздзеяння, якія прымяняюцца санслужбай. І ў першую чаргу — гэта публічнасць.

Першы выпрабаваны раней і сёння многімі забыты сродак — насценны друк, а іменна насценная сатырычная газета "Прывіўка". У час паездак па раёне санработнікі акрамя прафілактычнай работы, абавязкова бяруць на аловак грубыя парушэнні нормаў санітарыі. Мастак санслужбы ў сатырычнай форме адлюстроўвае гэта ў насценгазеце. Яна вывешваецца ля будынка райвыканкама, дзе звычайна часта бываюць кіраўнікі розных рангаў. Праходзячы міма, многія спыняюцца, каб даведацца пра чарговага парушальніка.

Такая ж сатырычная насценгазета вывешваецца і ў пасёлку Антопаль. Праўда, бывалі выпадкі, што тут ноччу разбівалі шкло стэнда і праз жалезныя рашоткі рвалі сваю "крыўдзіцельніцу". Значыць, яна дзейсная, бо дастаецца ў ёй і гандлёвым работнікам, і камунальнікам, і проста нядбайным жыхарам.

Другой, больш новай формай барацьбы з парушальнікамі санітарна-гігіенічных правілаў і нормаў, з'яўляецца тэлебачанне. У час рэйдаў на відэаплёнку здымаецца ўсё дрэннае, што заўважылі санработнікі. Адзін раз у тыдзень тэлегледачы раёна па канале Драгічынскага кабельнага грамадскага тэлебачання бачаць "герояў" тых відэаздымкаў. Трэба зазначыць, што папулярнасць гэтых кароткіх дакументальных фільмаў даволі вялікая.

Нярэдка бывала, што парушальнікі прасіліся заплаціць удвая большы штраф, толькі б не паказвалі іх на блакітным экране. Гэтыя факты гавораць самі за сябе.

*Антон ХВЕДАРЧУК.*
*г. Драгічын.*

# Чалавек трапіў у бяду

## Хто прыйдзе яму на дапамогу?



***Большасць з нас, безумоўна, памятае тыя часы (а было гэта 20-25 гадоў таму), калі моладзь амаль пагалоўна марыла стаць лётчыкамі, касманаўтамі. Упэўнены, што такую ж павагу да сябе сёння здабылі людзі, якія маюць прафесію выратавальніка.***

***Расказвае Міхаіл КАВАЛЬЧУК, начальнік Івацэвіцкага пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада:***

— Неабходнасць з'яўлення прафесіі выратавальніка дыктавалася самім часам. Уявіце сабе сітуацыю, якая некалькі год назад мела месца ў нас на Івацэвіччыне. Чалавек капаў шахтавы калодзеж, але раптам абваліўся верх, чалавека пачало засмоктваць, зацягваць, засыпаць. Перапалоханыя родзічы імгненна выклікалі "хуткую", міліцыю, але і тыя, і другія разводзілі рукамі. Насамрэч, да каго звяртацца ў такой сітуацыі? Цяпер любы, думаю, ведае — да нас, да выратавальнікаў. Дарэчы, чалавека таго нашы супрацоўнікі і выратавалі.

Зараз мы шмат часу працуем над адпрацоўкай самых розных экстрэмальных магчымых сітуацый. Небяспека можа прыйсці з самага нечаканага боку: да прыкладу, нядаўна на нашай чыгуначнай станцыі быў выпадак, калі адбылася разгерметызацыя цыстэрны з дызпалівам. Калі б сітуацыю не ўзялі пад кантроль — бяды не мінаваць. Думаю, вы цудоўна разумееце, што небяспекі ў нашай працы хапае...

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

**НА ЗДЫМКУ: адзін з лепшых выратавальнікаў Івацэвіцкага ПАВА Юрый ЖУРОМСКІ. Фота аўтара.**

# Посетите концерт Валерии,

## если денег хватит

***Уже больше двух недель на российских телеканалах в рекламных выпусках сообщается, что во всех областных центрах РБ и в городе Барановичи пройдут концерты популярной российской певицы Валерии.***



Концерт в Барановичах, кстати, состоится 9 февраля, и продажа билетов уже началась. Их стоимость, скорее всего, шокирует среднего белоруса: 20 тысяч за одно место. Есть, правда, предположения, что, как сообщили "Газете для вас" в администрации городского Дома культуры, в задних рядах места будут стоить дешевле — 15 тысяч.

Около двух месяцев назад здесь же, в Барановичах, при большом стечении публики прошло выступление популярного дуэта российских юмористов Ильи Алейникова и Юрия Стоянова, авторов передачи "Городок". Билеты тогда стоили, правда, несколько дешевле — 10 тысяч за место.

*Александр Горбач.*

P. S. *Как сообщили нашему изданию, на вторник, 23 января, барановичскими любителями живого звука и "попсы" за три дня с начала продажи билетов на концерт Валерии раскуплено более 50 процентов предлагаемых мест. Аншлаг более чем гарантирован.*

# Был у матери любимый сын...

## А стал он — убийцей

### ОБВИНИТЕЛЬНЫЙ ПРИГОВОР

***14 августа 1978 года родился у матери сын — желанный любимый мальчишка. Разве думала-гадала женщина, что произвела на свет ни кого иного, как убийцу. Пройдёт 22 года, и этот факт станет бесспорным.***

...Прекрасный майский день начинался обычно для обычных людей. Те, кому край как хочется выпить, обычно кучкуются у магазинов, выскребая из карманов оставшиеся деньжата. Так, озабоченные очередной выпивкой, простаивали у магазина "Пинск" трое мужиков. Именно там и именно на алкогольной почве и познакомился с ними Виталий Гриб. (Не очень хочется обращать на него внимание читателей, но кое-что сказать придётся. За плечами у этого нелюдя неполное среднее образование, судимость. Не утруждал он себя работой — болтался по городу в поисках приключений). За знакомство выпили. Потом передислоцировались в район магазина "Дружба". Для покупки очередной порции спиртного необходимо было толкнуть две банки варенья, украденного дома. Несложная операция прошла удачно. Любимое чернильце бальзамом пролилось на душу. Конечно же, хотелось ещё. А денег, увы... Вот и слонялись бесцельно мужики от магазина к магазину. Денежные знакомые на пути не попадались и компания развалилась. Остался Гриб и его будущая жертва. Мирный разговор не клеился, зато беспричинная ссора вспыхнула молниеносно. Гриб не стал искать словесные аргументы, в ход сразу пошёл нож.

### ИЗ МАТЕРИАЛОВ УГОЛОВНОГО ДЕЛА

***— Не преследуя никакой цели, я нанёс мужчине в ходе драки один удар ножом в живот, а потом в шею и спину.***

Следствие установило, что Гриб ударил своего бывшего собутыльника не менее 15 раз.

Жертве повезёт: сумеет вырваться и сбежать. Только благодаря этому и останется жив. Правда, до сих пор остаётся загадкой, как он сумел это сделать? Ведь пьян был до такой степени, что даже не помнит, кто его хотел убить и первоначально даст показания против другого человека. Так что сочувствовать жертве как-то не хочется, разве что дать совет: надо меньше пить!

Гриб преспокойно пойдёт домой, по дороге выбросит нож. Назавтра, правда, одумается и пойдёт искать "игрушку", она ему ещё понадобится. Понадобится очень скоро, буквально через месяц.



...Июньское утро было истинно июньским — тёплое и светлое. Ну что плохого в том, что два приятеля встретились и пошли на озеро искупаться, позагорать? Сложно их обвинить даже в том, что распили бутылочку вина. К обеду обзавелись и другой, но пить не стали. Употребили только к вечеру, а ближе к ночи вышли прогуляться. Прогулка вылилась в попойку: выпили сначала одни, потом со встретившимися знакомыми. Среди знакомых был и парень, для которого эта встреча окажется роковой, ибо Гриб всё-таки напьётся крови. Остаётся только диву даваться, откуда в молодом человеке столько садизма! И как легко человек становится зверем, кровожадным и жестоким.

Компания упилась до чёртиков. Более трезвые Гриб и Рулько станут разводить по домам собутыльников. Когда вернутся к месту сборища, там будет только изрядно выпивший парень, кстати, по жизни не пьющий, спокойный, уравновешенный. Что-то угораздило его в тот день попасть в компанию и выпить спиртного, от которого быстро захмелел. Его тоже вроде как соберутся отвести домой, направятся в сторону лесопосадки, что в районе улицы Наконечникова. Там и разыграется трагедия. Всё начнётся с безобидной перебранки, потом в ход пойдут кулаки.

— Я отошёл на минуту от них, а когда вернулся, то увидел, что Виталий накинул на шею Курловичу ремень и душил,— даст показания Рулько. А потом и он сам примет участие в удушении парня. Возьмётся за другой конец ремня...

Когда они бросят Курловича, он ещё будет жив. Зверская натура Гриба почувствует это. Под благовидным предлогом он предложит Рулько вернуться.

— Пошли, отведём его домой!

Однако, эта версия родилась только во время следствия, чтобы хоть как-то обелить свои грязные помыслы. На самом деле, поняв, что Курлович ещё жив, Гриб решил сходить домой за ножом и дорезать его. С некой нечеловеческой жестокостью Гриб будет убивать свою жертву: ножом в шею, в грудь, в голову. На теле у Курловича насчитают 76 ножевых ранений.

### ИЗ МАТЕРИАЛОВ УГОЛОВНОГО ДЕЛА

Вернувшись на место происшествия, Гриб В. В. с целью умышленного убийства с особой жестокостью, выразившейся в причинении большого количества телесных повреждений, заведомо сознавая, что в процессе лишения жизни причиняет особые страдания и мучения, стал наносить Курловичу В. А. удары ножом в область сердца, шеи, груди.

Гриб закончит своё дело, преспокойно вытрет нож о траву и пойдёт домой. Ляжет спать. И будет делать это совершенно спокойно до тех самых пор, пока его не арестуют.

Итог всякого следствия — обвинительный приговор. Если бы старший следователь прокуратуры Александр Крутько мог отступить от статей Уголовного Кодекса, то его обвинительный приговор мог бы уместиться в несколько слов — таким на земле не место.

Решением суда Виталий Гриб приговорён к ... годам лишения свободы, Сергей Рулько — к'...

Но никакие сроки не смогут вернуть человека. Убитому парню уже не собирать грибы, не видеть закатов и не растить детей...

*Галина СТРОЦКАЯ.*
*г. Барановичи.*

**(Працяг. Пачатак у №№ 2, 3).**

## III. ЗА ВОЛЮ НАРОДНУЮ

Галоўная небяспека для ЗША вясной 1777 года навісла з поўначы. Англічане наступалі з Канады і Нью-Йорка і мелі намер разграміць паўстанцаў. Рашэннем кангрэса была створана армія Поўначы, галоўным інжынерам у якую быў прызначаны Касцюшка. Гэтая армія дабілася вялікага поспеху ў бітве пад Саратогай. Дзякуючы надзейным умацаванням, тут было разгромлена буйное злучэнне англійскіх войскаў. Перамога ўзняла дух амерыканскай арміі і з'явілася пачаткам будучага паражэння Англіі ў вайне.

У афіцыйным рапарце кангрэсу камандуючы арміяй указаў, што палкоўнік Касцюшка заслужыў вялікай пахвалы за тое, што ўдала выбраў і надзейна ўмацаваў пазіцыі амерыканскіх войскаў.

Прозвішча Касцюшкі пасля бітвы пад Саратогай ужо ведаў галоўнакамандуючы амерыканскай арміі Джордж Вашынгтон. У сваім лісце 10 лістапада 1777 года ён пісаў старшыні кангрэсу: "**Касцюшка з'яўляецца чалавекам навукі і вышэйшых якасцей. Згодна з атэстацыяй, якую маю аб ім, заслугоўвае, каб мець яго на прыкмеце**".




3.

У пачатку 1778 года амерыканскі кангрэс прыняў рашэнне аб стварэнні крэпасці на ўзбярэжжы ракі Гудзон. Джордж Вашынгтон прапанаваў на пасаду галоўнага інжынера Касцюшку. Яго кандыдатуру зацвердзіў кангрэс. Два з паловай гады наш зямляк кіраваў будаўніцтвам самай вялікай крэпасці ў краіне, у Вест-Пойнт. Тут аднойчы знаходзілася штаб-кватэра Вашынгтона. Пазней у Вест-Пойнт была створана ваенная акадэмія ЗША. Дарэчы, тут у Вест-Пойнт у 1830 годзе Касцюшку быў пастаўлены помнік.

Англічане, якія пацярпелі паражэнне на поўначы, паспрабавалі дабіцца перамогі на поўдні, перанёсшы туды галоўныя ваенныя дзеянні. Рашэннем кангрэса тэрмінова была створана паўднёвая армія. Галоўным інжынерам яе прызначылі Тадэвуша Касцюшку. Ён займаўся не толькі інжынернымі работамі (умацаваннямі, мастамі, пераправамі), але і камандаваў баявымі лінейнымі часцямі.

Аб тым, наколькі быў высокім аўтарытэт Касцюшкі ў Амерыцы, могуць сведчыць пісьмы вышэйшых службовых асоб ЗША.

Джордж Вашынгтон, напрыклад, у пісьме да генерала Грына пісаў, што ён блізка пазнаёміўся з Касцюшкам і высока цэніць яго веды, настойлівасць і арганізатарскія здольнасці, з якімі ён праводзіў работы ў Вест-Пойнт.

4.

13 кастрычніка 1783 года кангрэс ЗША за выдатныя заслугі прысвоіў Касцюшку званне брыгаднага генерала і ў пастанове запісаў, каб ваенны міністр "**выдаў палкоўніку Касцюшку дыплом на званне брыгаднага генерала і засведчыў гэтаму афіцэру, што кангрэс прасякнуты высокай свядомасцю яго працяглых і асабліва каштоўных заслуг**".

У ліку трох іншаземцаў Тадэвуш Касцюшка быў узнагароджаны самым высокім баявым ордэнам ЗША — ордэнам Цынцынаці і прыняты ў склад цынцынататў, ганаровым членам якога быў Джордж Вашынгтон.




*Тадэвуш Касцюшка, галоўнакамандуючы рэвалюцыйнай арміяй. Гравюра на медзі паводле партрэта Я. Шродэра, выкананая ў 1793 г.*

Акрамя гэтага, Касцюшка атрымаў амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію, зямельны надзел, а ад Джорджа Вашынгтона асабісты падарунак — пару пісталетаў.

Так быў адзначаны ўклад нашага земляка ў перамогу над англійскімі каланізатарамі, у справу барацьбы за свабоду і незалежнасць ЗША.

5.

За час знаходжання ў Злучаных Штатах Амерыкі Тадэвуш Касцюшка пазнаёміўся з многімі дзеячамі гэтай краіны, а таксама прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці. Ён пасябраваў з Томасам Джэферсонам, аўтарам Дэкларацыі незалежнасці, які быў у 1800 годзе абраны прэзідэнтам ЗША.

Так, у Дэкларацыі незалежнасці ЗША (1776 г.) было запісана: "Мы лічым відавочным наступныя ісціны: усе людзі створаны роўнымі, і ўсе яны надзелены творцам некаторымі неад'емнымі правамі, да ліку якіх належыць жыццё, свабода і імкненне да шчасця. Для забеспячэння гэтых правоў устаноўлены сярод людзей урады, якія надзяляюцца справядлівою ўладаю са згоды грамадзян..."

Гэтыя ідэі амерыканскай рэвалюцыі поўнасцю супадалі з поглядамі Тадэвуша Касцюшкі. Таму невыпадкова ён пакінуў сваё завяшчанне менавіта свайму сябру Томасу Джэферсону. Вось змест гэтага завяшчання: "**Я, Тадэвуш Касцюшка... гэтым сведчу і пастанаўляю: у выпадку, калі затым я не распараджуся ў маім завяшчанні інакш сваёй уласнасцю, што знаходзіцца ў Злучаных Штатах, то даручаю майму сябру Томасу Джэферсону цалкам выкарыстаць гэтую маёмасць на выкуп няграў, якія належаць яму самому або іншым, на дараванне ім свабоды ад майго імя, на навучанне іх рамёствам або іншым навукам, на выхаванне ў іх маральных якасцей, якія дапамогуць ім стаць добрымі суседзямі, добрымі бацькамі і маці, мужамі і жонкамі, на выхаванні ў іх добрасумленных адносін да грамадскіх абавязкаў і ў першую чаргу да абароны сваёй свабоды, сваёй краіны і добрага грамадскага парадку, на іх выхаванне ва ўсім тым, што можа іх зрабіць шчаслівымі і карыснымі. Я прызначаю вышэйназванага Томаса Джэферсона выканаўцам гэтага завяшчання**".

Як бачым, гэта не проста завяшчанне. Гэта цэлая сістэма поглядаў самога Касцюшкі, якая выспела і ператварылася ў ягоныя перакананні. Яны і былі ў аснове яго дзейнасці, калі вярнуўся на радзіму і неўзабаве стаў галоўнакамандуючым рэвалюцыйнай арміі.

## IV. "ЖАДАЮ СВАБОДЫ ДЛЯ ЎСЯГО НАРОДА..."

1.

У чыне брыгаднага генерала амерыканскай арміі Тадэвуш Касцюшка ў 1784 годзе прыехаў у Еўропу. Пасяліўся ў Сяхновічах і меў намер пайсці на ваенную службу. Аднак месца для бывога генерала ні ў войску Рэчы Паспалітай, ні Вялікага княства Літоўскага не знайшлося, і Касцюшку на працягу пяці гадоў давялося займацца сельскай гаспадаркай. Толькі ў 1788 г., калі па рашэнні чатырохгадовага сейма Рэчы Паспалітай колькасць польскага войска павялічвалася ў пяць разоў, Тадэвуш Касцюшка атрымаў пасаду камандзіра брыгады ў польскай арміі. Праўда, ён хацеў служыць у арміі Вялікага княства Літоўскага. Аб гэтым сведчыць пісьмо генералу Несялоўскаму, датаванае 7 лютага 1790 года. У ім Касцюшка прасіў вырваць яго з польскай арміі і вярнуць у Вялікае княства Літоўскае: "**Хіба вы адмаўляецеся ад мяне і лічыце непатрэбным служыць Вам! Хіба я не ліцвін, Ваш зямляк, Вамі абраны!.. Каго павінен абараняць, калі не Вас і сябе самога!.. Таму што злосць мяне бярэ: каб з Літвы ў Кароне служыць, калі вы не маеце трох генералаў. Калі вас вешаць на вяроўцы будуць гвалтаўнікі, тады толькі адумаецеся і пра сябе пачнеце клапаціцца**".



*Ордэн Цынцынаці, якім быў узнагароджаны 5 мая 1784 г. Тадэвуш Касцюшка.*

Як вядома, нягледзячы на вялікае жаданне служыць у літоўскім войску, Касцюшку не ўдалося перавесціся туды.

2.

Далейшыя падзеі, што адбываліся ў Рэчы Паспалітай, зрабілі значны ўплыў на жыццё і дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі.

3 мая 1791 года была прынята Канстытуцыя. Гэты закон устанаўліваў новыя прынцыпы арганізацыі вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання, якія павінны дзейнічаць па прынцыпу падзелу ўлады. Пануючай рэлігіяй аб'яўлялася каталіцкая. Адначасова абвяшчалася і свабода іншых рэлігійных абрадаў.

Новы закон гарантаваў правы і прывілеі заможнай шляхты і мяшчан, захоўваў залежнасць сялян ад памешчыкаў, але абвяшчаў апеку права і ўрада над сялянамі.

Прадугледжвалася таксама стварэнне судоў, незалежных ад адміністрацыі, і выданне новых грамадзянскага і крымінальнага кодэксаў. Лічылася, што Канстытуцыя 3 мая з'яўлялася вынікам кампрамісу класа феадалаў з маладой буржуазіяй.

Калі стала пытанне аб прынясенні прысягі на вернасць Канстытуцыі 3 мая, Касцюшка, як перакананы рэспубліканец, без ваганняў прыняў прысягу і распарадзіўся аб прыняцці прысягі падначаленымі яму афіцэрамі.

29 чэрвеня 1791 года пасля прыняцця чатырохгадовым сеймам Канстытуцыі 3 мая былі створаны дзве дэпутацкія камісіі — польская і Вялікага княства Літоўскага, якія павінны былі падрыхтаваць праект прававой рэформы, выпрацаваны на аснове сістэматызацыі і перагляду крымінальнага і грамадзянскага права.

3.

Тадэвуш Касцюшка вырас у сям'і, дзе прадзед і дзед былі судовымі чыноўнікамі, з дзяцінства выхоўваўся на павазе да права і асабліва да Статута (маецца на ўвазе Статут 1588 года Вялікага княства Літоўскага), што заставаўся дзеючым законам на тэрыторыі Беларусі і Літвы да 1840 года.

Перамены ў грамадскім і дзяржаўным жыцці Рэчы Паспалітай былі даспадобы Касцюшку. Гэта ўсяляла надзеі на лепшае будучае. Аднак перамены, прагрэсіўныя законы, што мелі права на жыццё, падабаліся не ўсім, асабліва выступілі супраць рэакцыйныя магнаты і вярхушка каталіцкага духавенства,



*Томас Джэферсон. Гравюра, выкананая паводле рысунка Т. Касцюшкі М. Сакальніцкім. Нацыянальны музей у Варшаве*

так званая старашляхецкая партыя. Менавіта яе прадстаўнікі пасля перагавораў у Пецярбурзе з Кацярынай II, заручыўшыся яе абяцаннем падтрымаць іх бунт, 27 красавіка 1792 года абвясцілі акт канфедэрацыі, які зачыталі ва ўкраінскім мястэчку Таргавіца пад фальшывай датай 14 мая.

Гэтым актам аб'яўлялася незаконнай дзейнасць сейма, які нібыта "**парушыў кардынальныя правы, адмяніў усе шляхецкія вольнасці, а 3 мая, учыніўшы рэвалюцыйную змову, устанавіў новую форму ўлады пры дапамозе мяшчан, салдат, уланаў... Рэспубліку ператварыў у манархію, бяззямельную шляхту ад роўнасці і свабод адхіліў**".

*Святаслаў КАЖАДУБ.*
*Іванцэвіцкі раён.*
*(Працяг будзе).*

